Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

15 – 21 СТУДЗЕНЯ 1999 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 10000 РУБЛЁЎ
№3 (195)

АДНА ЗЯМЛЯ

МІНСК

## Віншуем

Мастацкі кіраўнік народнага ансамбля песні і танца "Спадчына" з Маладзечна, заслужаны работнік культуры Беларусі **Іосіф Сушко** ўзнагароджаны прэміяй за дасягненні ў эстэтычным і маральным выхаванні, прапаганду духоўных каштоўнасцяў у галіне мастацкай самадзейнасці.

*Аддзел інфармацыі.*

Трэцяя прэмія спецыяльнага фонду за работу з таленавітымі дзецьмі прысуджаная настаўніцы матэматыкі СШ №1 Валожына **Лідзіі Уланчык**.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

*Іосіф Сушко.*
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Прэмія мінулага года "За духоўнае адраджэнне" прысуджана рэктару Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, галоўнаму дырыжору аркестра імя Жыновіча, народнаму артысту Беларусі ураджэнцу Вілейскага раёна **Міхаілу Казінцу**.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Вілейка фарміруе ўладу

Паступова ідзе фарміраванне новай улады. Пасля зацвярджэння сесіяй райсавета старшыні райвыканкома **Івана Шчітоўскага** вызначаныя яго намеснікі: **Пётр Юдо, Мікалай Кароткі, Аляксандр Абрамаў**. Кіраўніком спраў стаў **Алег Манцывода**, які дагэтуль працаваў загадчыкам аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва раёна.

Іншых работнікаў аб'яднанага райвыканкома з новымі пасадамі пакуль не азнаёмілі.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МІНСК

## Лядовы палац у Маладзечне?

На бліжэйшыя тры гады ў кожнай вобласці плануецца будаўніцтва палацаў са штучным лёдам. Што тычыцца Міншчыны, то цяпер разглядаюцца два варыянты: Салігорск і Маладзечна.

Хаця фінансаванне будзе цэнтралізаваным, відаць, спатрэбяцца і сродкі мясцовага бюджэту. Ці не лепш іх было б накіраваць на падтрымку футбольнай структуры, якая мае тут магутныя традыцыі, у першую чаргу, клуба "Маладзечна"?

Начальнік упраўлення па фізкультуры, спорце і турызме гарвыканкома **Мікалай Шрымф** сцвярджае, што адно аднаму не зашкодзіць.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

СМАРГОНЬ

## Шматтыражцы – 10

Дзесяцігадовы юбілей адзначыў нешматлікі калектыў журналістаў і паліграфістаў газеты завода аптычнага станкабудавання. 1 студзеня 1989 года тут выйшаў першы нумар "Маяка прогресса", пяць год рэдагаваў які сённяшні рэдактар аддзела грамадска–палітычнага жыцця раённай газеты "Светлы шлях" **Павел Маклюк**. Фотакарэспандэнтам працаваў **Міхась Разумнік**.

Сёння "Сморгонский станкостроитель" выходзіць з накладам у адну тысячу асобнікаў, для ветэранаў і пенсіянераў, што працавалі на прадпрыемстве, газета прыходзіць, як і запісана ў калектыўнай дамове, бясплатна.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## На "Спадарожніку" адключылі электрычнасць

У сераду частку рабочых завода адпусцілі дамоў.

У некаторых цэхах прадпрыемств часова адключылі электрычнасць. Прычына банальная – "Спадарожнік" неплацежаздольны.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Дыскусіі па праблемах, якія трэба вырашаць

МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую нядзелю ў рамках заняткаў "Народнага ўніверсітэта" адбылося дыскусійнае пасяджэнне па праблемах экалогіі горада. Удзел узяў старшыня "Беларускай экалагічнай партыі зялёных" **Міхаіл Фрындлянд**.

Абмеркоўвалі шмат набалелых пытанняў па навакольным асяроддзі, санітарыі, якасці вады і харчовых прадуктаў. На жаль, з запрошаных адказных асоб прысутнічала толькі намеснік загадчыка гарадскога аддзела адукацыі **Раіса Казановіч**.

Вырашана ў лютым з дапамогай партыі "зялёных" і яе шведскіх калег, пры непасрэдным удзеле членаў нядаўна створанай мясцовай філіі арганізаваць двухдзённы семінар па экалагічным навучанні выкладчыцкага корпусу горада.

*Алесь ЦАДКО.*

СПРАВЫ КАЛЯДНЫЯ

## Храм замест кінатэатра



*Радашковічы, 7 студзеня 1999 года*
ФОТА МІКОЛЫ ЛІННІКА

***РАДАШКОВІЧЫ. Удзень святкавання праваслаўных Калядаў адбыўся хрэсны ход ад Свята–Ілійнскай царквы да месца, дзе стаяў спалены падчас ваенных дзеянняў 1941 года праваслаўны Свята–Пакроўскі храм і шмат стагоддзяў захаванні святароў і знакамітых прыхаджан.***

З божым словам па–беларуску да ўдзельнікаў хрэснага ходу звярнууся айцец **Фама Шаплыка** – настаяцель Свята–Ілійнскага прыхода.

Матэрыяльны дабрабыт можа ствараццa і памнажацца толькі духоўна багатымі людзьмі. Таму задачай кожнага ў наш час з'яўляецца адраджэнне духоўнасці ў сваім сэрцы і праз гэта – хрысціянскай маралі грамадства. І першае, што мы павінны зрабіць, – адрадзіць святыню, пабудаваць царкву на ранейшым месцы, бо менавіта царква аб'ядноўвае пакаленні і ўзбагачае нашчадкаў духоўнымі і культурнымі здабыткамі продкаў.

Адбылося заўпакойнае маленне ліція і акрапленне святой вадой зруйнаваных магіл.

*Мікола ЛІННІК.*

***13 студзеня 1999 года ў школе мастацтваў адбылася сустрэча прадстаўнікоў мясцовых уладаў і прыхаджанаў Свята–Ілійнскай царквы па перадачы кінатэатра прыходу.***

Кінатэатр па вуліцы Савецкай пабудаваны ў 1991 годзе на месцы Свята–Пакроўскай праваслаўнай царквы, што згарэла 26 чэрвеня 1941 года. Яна была перабудаваная ў сярэдзіне XIX стагоддзя і знаходзілася на могілках, дзе былі пахаваныя святары і знакамітыя прыхаджане. Прыхаджане просяць перадаць будынак кінатэатра для перабудовы пад храм. У падтрымку гэтага сабрана каля 2500 подпісаў. У выніку абмеркавання з удзелам старшыні гарпассавета **Аляксандра Кахоўскага**, намесніка старшыні райвыканкома **Барыса Бароўскага**, настаяцеля прыхода айца **Фамы Шаплыкі**, прыхаджан дасягнута паразуменне і вырашана звярнуцца з просьбай да ўладальніка кінатэатра – Мінскага аблвыканкома.

*Аддзел інфармацыі.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Мяса – для хваробы?

***МАЛАДЗЕЧНА. У вёсцы Насілава зарэгістраваны ачаг трыхінелёзу. Захварэла і шпіталізавана 7 чалавек, у т. л., 3 дзяцей. Захворванне звязана з ужываннем свініны дамашняга забою.***

Звычайна людзі заражаюцца, ужываючы ў ежу заражанае мяса, як адбылося і ў гэтым выпадку. Прычым, ні праварванне, ні прасмажванне, ні вэнджанне, ні саленне ў поўнай меры ад лічынак трыхіны не выратоўваюць, і праз 2–4 тыдні праяўляюцца сімптомы захворвання: тэмпература, слабасць, мышачныя болі (часцей у вобласці лытак), ацёкі павекаў, твару (адсюль народная назва "адутлаватка"), скурныя высыпанні, кішэчныя расстройствы.

Захворванне можа працякаць у лёгкіх і сцёртых формах, а можа і ў вельмі цяжкіх – са смяротным зыходам.

Каб пазбегнуць заражэння, неабходна мяса дамашніх свіней, дзікоў даследаваць у ветэрынарных лабараторыях. Не спяшайцеся распаўсюджваць мясапрадукты сярод сваякоў і знаёмых. Акрамя таго, каб не дапусціць заражэння, не трэба купляць мяса ў невядомых асобаў, у неўстаноўленых месцах, пры адсутнасці дакументаў аб праверцы ў ветлабараторыі.

Праверка мяса ў ветэрынарных лабараторыях праводзіцца бясплатна, не патрабуе шмат часу, забяспечвае гарантыю, а затраты на лячэнне, правядзенне супрацьэпідэміялагічных мерапрыемстваў каштуюць вельмі дорага, і любое захворванне пакідае дрэнны след як у жыцці, так і здароўі чалавека.

*Віктар БЕЛІК, галоўны ўрач Маладзечанскага РЦГіЭ.*

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## "Стары Новы год" лепш за новы?

***Экспрэс-апытанне праведзена напярэдадні Новага года па Юльянскім календары, калі вярсталася наша газета. Цяпер стары Новы год сустрэты. Давайце ўспомнім, як да яго рыхтаваліся...***

*Ала:*

– У нас з мужам свой невялікі бізнес. Так супала, што на "стары Новы год" буду ў Польшчы. А так, лічу гэта за свята і сустракаю толькі з сябрамі.

*Міраслава:*

– Мой сябар у гэты дзень нарадзіўся. Таму ў нас двайное свята. Запрасім яго ў госці. Запяку курыцу з соусам. Цяпер бягу па падарункі сваёй сям'і, ну, а для сябра ўжо нагледзела туалетную ваду.

*Валерый ГРЫНКЕВІЧ, прадпрымальнік:*

– Традыцыі сустракаць "стары Новы год" не маем. Аднак сёлета сустрэча будзе. Пачнем свята з урачыстага вынасу з кватэры ёлкі. А там невялічкае застолле ў коле сям'і. Поўны экспромт у віншаваннях і стравах.

*Лідзія КРАСНОВА, распаўсюджвальнік "Рэгіянальнай газеты":*

– Звычайна мы адзначаем, праўда, без банкетаў. На гэты раз дома будуць муж, бабуля і я. Дзеці не прыедуць. Сыны – Дзмітрый і Андрэй – афіцэры, служаць у Расіі. Ірына і Віктар – студэнты, здаюць сесію. Магчыма, прыйдуць нашы сябры.

*Алена ФЕРАФОНТАВА, галоўны спецыяліст Маладзечанскага райсавета дэпутатаў:*

– Новы год па старым стылі сустракаю абавязкова са сваімі роднымі. У гэты раз зраблю якую–небудзь новую салату, бо люблю на кухні эксперыментаваць. А адпачываць пайду, зразумела, пасля апоўначы.

*Валерый АЛЬШЭЎСКІ, загадчык аддзела моладзі райвыканкома:*

– Звычайна сустракаю. І гэты "стары Новы год" не будзе выключэннем. Праўда, я захварэў і ў гэты час буду знаходзіцца ў бальніцы. Там вакол яе будынка многа ялінак. Спадзяюся, што разам з медперсаналам паводзім карагоды. І павіншуем адзін аднаго.













ФОТААПЫТАННЕ ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ІМЯ

# Мікола ШАБОВІЧ



*Мікола Шабовіч нарадзіўся 4 студзеня 1959 года ў вёсцы Бадзені на Мядзельшчыне. Скончыў педінстытут імя Горкага. Працаваў настаўнікам у васьмігадовай школе ў Шыпках, што на Вілейшчыне. Цяпер - выкладчыкам у Alma Mater - Беларускім дзяржаўным педуніверсітэце імя Максіма Танка, у які быў пераўтвораны яго родны інстытут. Акрамя гэтага, Мікола Шабовіч загадвае літаратурнай часткай Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне.*

*Увесь час Мікола піша. Сёння імя Шабовіча вядомае як імя паэта-песенніка. На яго словы ствараюць песні многія кампазітары, сярод якіх і наш зямляк Алег Елісеенкаў. Песні на яго вершы выконваюцца па беларускім тэлебачанні і радыё, на фестывалях у Маладзечне і Віцебску. 23 снежня, перад Новым годам і сваім саракагоддзем, Мікола Шабовіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Пры тайным галасаванні за яго прыём прагаласавала абсалютная большасць пісьменнікаў.*

*Сёння Мікола Шабовіч і яго сааўтар і цёзка кампазітар Мікола Яцкоў дэбютуюць у нашай газеце.*

## Падбяры мне песню

*Словы Міколы ШАБОВІЧА. Музыка Міколы ЯЦКОВА*



Падбяры мне песню, падбяры,
Тую, што яшчэ не адспявана.
Нам з табою, што ні гавары,
Разам быць яшчэ наканавана.
**Прыпеў**: Хай яна ліецца праз акно
У вышынь, дзе зорная завея.
Моўчкі п'ю гарбату, як віно,
І не разумею, што п'янею.
Падбяры мне песню, я прашу,
Падбяры такую, як ты хочаш.
Хай яна сагрэе мне душу,
Раскалыша думы апаўночы.
**Прыпеў**

## Алеся

*Словы Міколы ШАБОВІЧА. Музыка Міколы ЯЦКОВА*



Святло твайго далёкага акна
І праз гады, як калісь, прада мною.
Скажы, чаму сягоння ты адна?
Скажы, чаму сягоння не са мною?
**Прыпеў**: Алеся, Алеся,
Каханая мая,
Алеся, Алеся,
Адзін сумую я.
Алеся, Алеся,
Надзею мне вярні,
Алеся, Алеся,
Вярні пяшчоты дні.
Цяпер між намі сцюжная зіма,
Але жыву я мараю адною,
Што прыйдзеш ты, як некалі, сама
Чароўнай прыгажуняй незямною.
**Прыпеў**
Святло твайго далёкага акна,
Мае расстанні там, мае сустрэчы.
Як быццам зноў стаім мы давідна,
І рукі мне свае кладзеш на плечы.
**Прыпеў**

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# "Крывавыя" разборкі абяцаю

***даволі сур'ёзна, хаця і з гумарам, пра добраўпарадкаванне Маладзечна гаворыць намеснік генеральнага дырэктара ВА ЖКГ "Камунальнік" Павел ГАСЬКОЎ:***



*«Крывавыя» разборкі пакуль не пачаліся.*
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

– Перш за ўсё, горад ператворым у квітнеючы сад. Ён у нас па нормах у тры разы менш зелянейшы, чым трэба. Ёсць праект комплекснага азелянення. Правядзем рэканструкцыю цэнтральнага парку. У розных яго месцах возьмем на аналіз глебу. Можа атрымацца і так, што на нейкім участку зменім расліны.

Будзе закладацца парк у шостым мікраёне. Толькі праектныя работы па гэтых парках цягнуць на 1 мільярд рублёў.

**– Сярод усіх мерапрыемстваў па добраўпарадкаванні можна вызначыць першачарговыя?**

– Галаўны боль – пуцепрavод па вуліцы Віленскай. Калісьці даўно разумныя галовы папрацавалі: на слой асфальту яшчэ адзін паклалі. Пацяжэў мост значна, утварылася небяспека для людзей. Сёлета будзем канструкцыі ўмацоўваць, асфальт здымаць. На работы вобласць ужо выдаткавала 10 мільярдаў пры неабходных 11. Аўтааматары няхай не турбуюцца – дарога закрытая не будзе. Працаваць на ёй плануем па частках.

**– З–за бездарожжа аўтобус №5 у чарговы раз змяніў маршрут, ведаеце?**

– Участак насупраць аўтапарка па Вялікасельскай сапраўды небяспечны: разбіты, грунтавыя воды ўзняліся. Пасля дажджу ўтвараецца сапраўдная дрыгва. Прыватныя дамы, што побач, топіць. Гэты ўчастак дарогі таксама ў сёлетніх нашых планах.

**– Да камунальных службаў заўсёды было шмат прэтэнзій, папрокаў. Лісты–скаргі, наведвальнікі ў рабоце службаў дапамагаюць ці наадварот?**

– У нейкім сэнсе, звароты гараджанаў – для нас барометр. А людзі розныя, і розныя іхнія праблемы. Напрыклад, цяпер пашыраем, паглыбляем рэчку Маладачанку. Жыхары прыватных дамоў самавольна ўзаралі дзяржаўную зямлю ўздоўж яе. Экскаватаршчык працуе, а людзі ледзь да яго не біцца. Ці тыя ж штрафы – летась 30 мільёнаў сабралі за парушэнні санітарнага стану горада. Па маёй ініцыятыве створана міжведамасная камісія з прадстаўнікоў «Камунальніка», экалагічнай службы, цэнтра гігіены. Санітарны стан камісія кантралюе. І сёлета абяцаю "крывавыя" разборкі.

**– Цэнтральныя вуліцы ўвайшлі ў ваш план?**

– Працаваць будзем над аўтобуснымі прыпынкамі ля друкарні і ўніверсама "Чыгуначны". Там жа асфальтавацца будзе праезная частка вуліцы Прытыцкага. Пачнем рамонт дарогі ад пачатку вуліцы Б. Хмяльніцкага. Давядзем яго да Вялікага Гасцінца толькі пасля таго, як СШ №6 скончыць свой (ідзе замена агароджы). Пакладзем плітку насупраць увахода ў парк – там, дзе магазін "Елгава".

**- Гарадскія ўлады матэрыяльна дапамагаюць ці толькі паказваюць на недахопы?**

- У нашым «белым доме» заўсёды знаходзім разуменне і падтрымку. Прыкладам, літаральна перад самым Новым Годам за грошы, што выдзеліў гарвыканком, набылі грэйдэр. Такая машына нам вельмі неабходная для абуладкавання дарог.

**– Колькі наогул трэба грошай, каб горад расцвіў?**

– Сотні мільярдаў. Але ж, па філасофіі, усё знаходзіцца ў руху: робім адно, псуецца іншае.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# На мяжы не ўсім шанцуе

АШМЯНЫ. Матэрыялы па шасці фактах незаконнага вывазу прадуктаў з мытнай тэрыторыі Беларусі, што выявілі з 12 па 18 снежня ашмянскія мытнікі, перададзеныя ў народны суд. Затрыманы і грузы, і аўтатранспарт, на якім яны перамяшчаліся.

Найбольш значны выпадак адбыўся 12 снежня на мытным пасту "Катлоўка". Літоўскі вадзіцель спрабаваў вывезці ў Расію вяндліну агульнай вагой 19844 кілаграмы, на суму 6265375 тысяч беларускіх рублёў. Не пашанцавала – пазбавіўся і грузу, і аўтамабіля "Сканія".

***Павел МАКЛЮК.***

ЖЫВЫ КУТОК

# Браканьеры гаспадарылі ноччу

ВАЛОЖЫН. У мінулыя выхадныя егер Налібоцкага паляўнічага заказніка Леанард Юрэвіч на сваёй тэрыторыі знайшоў рэшткі самкі ласся. Пошукам браканьераў займаецца міліцыя. Узбуджаная крымінальная справа.

Дарэчы, ні адзін сапраўдны паляўнічы не стрэліць у самку з малым.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАДАРОЖЖЫ

# У Жыровіцы да беларускай Святыні

***Вернікаў хачу запрасіць у Жыровіцы. Зрэшты, чаму толькі вернікаў? Можа паехаць кожны. Даўней царкоўнае мястэчка Жыровіцы мела Магдэбургскае права. Узнікненне мястэчка звязана са з'яўленнем цудадзейнага абраза Маці Божай, у далейшым – Маці Божай Жыровіцкай. Там, дзе з'яўляўся абраз і сама Маці Божая, – б'юць крыніцы Святой Вады.***

Ля адной з іх ёсць купель: рэшткі вады збіраюцца на глыбіні больш за метр, і калі хто жадае, можа акунуцца ў ваду, тэмпература якой узімку і ўлетку 9 градусаў. Шматлікія турысты акунаюцца з галавой нават у халодныя восеньскія дні, і ніхто не ведае выпадкаў прастуды. Наадварот, расказала адна маладая жанчына, якая ездзіла туды ў лістападзе, – яна пазбавілася пухліны і неабходнасці ў аперацыі.

У свой час у Жыровіцы прыязджалі каралі Рэчы Паспалітай, князі Вялікага княства Літоўскага.

У Жыровіцах семінарыст Мінскай духоўнай семінарыі раскажа вам гісторыю семінарыі і мужчынскага кляштара, пакажа Успенскі сабор, патлумачыць, як трэба пакланіцца цудадзейнаму абразу Маці Божай, які знаходзіцца ў цэнтральным алтары сабора.

Калі вы прыедзеце ў нядзелю ці ў святочны дзень, пастойце ў саборы ў час малення. Паслухайце літургію, пастарайцеся спасцігнуць сэнс малітвы. Паслухайце дзівосныя царкоўныя спевы. Яны запаўняюць усю прастору сабора. Часам малітву ўзносіць мужчынскі хор семінарыстаў, гучанне яго падхоплівае другі хор – змешаны. Мелодыя рэхам коціцца пад зводамі Святога Храма і ціха знікае ў выкананні хора манахаў у алтары.

Вы адчуеце, як нешта ўзнеслае напаўняе вашу істоту. Не абмініце гэтыя хвіліны вашага жыцця.

***Любоў КАРПОВІЧ.***

ВЫХАВАННЕ

# Вучні і святар

ВАЛОЖЫН. 15 таленавітых вучняў частку канікулаў правялі ў Мінску.

У рамках акцыі "Чарнобыльскі шлях" юныя валожынцы сустрэліся ў кафедральным саборы з Філарэтам. Кожны атрымаў па падарунку.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

# Сем'і розныя бываюць. Дрэнныя – таксама

СМАРГОНЬ. Апошніх на Смаргоншчыне налічваецца 200, а растуць у іх 480 дзяцей.

Камісія па справах непаўналетніх прыцягнула летась да адміністрацыйнай адказнасці 110 бацькоў, 22 з якіх суд пазбавіў правоў на выхаванне дзяцей, 14 добраахвотна пакінулі сваіх нашчадкаў без нагляду. 25 дзяцей увогуле на працягу года знаходзіліся ў бальніцы, пазбаўленыя элементарнай мацярынскай ласкі.

У Смаргоні наспявае пытанне з адкрыццём дзіцячага прытулку, бо, як і па ўсёй Беларусі, грамадства дэградзіруе. На 1 студзеня на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх райаддзела міліцыі знаходзілася 107 падлеткаў, з іх 69 – вучні.

***Павел МАКЛЮК.***

МЕДЫЦЫНА

# Кефір у дэфіцыце

*МАЛАДЗЕЧНА. Больш за сорак год таму пачала сваю дзейнасць малочная кухня – ад заснавання дзіцячай бальніцы, у склад якой яна ўваходзіць. З 1989 года кухня працуе ў новай прыбудове да бальніцы, з новым абсталяваннем. Паколькі створана і дзейнічае яна для забеспячэння сваёй прадукцыяй немаўлятаў, то, натуральна, на першы план выступае якасць харчавання, што выпускаецца тут.*

Загадчыца ўстановы **Наталля Грыневіч:**

– Наша прадукцыя разнастайная: малочныя сумесі ("Малютка", "Малыш", "Алеся", "Тонус"), камбінаваныя кашы 5% і 10%, фруктовы кісель, цукровы сіроп, рысавы адвар, адвар разынак, мясны булён, мясны фарш, пюрэ з агароднiны, тварог, малако, смятанка.

**– Хто атрымлівае ўсё гэта?**

– Адпускаем прадукцыю мы толькі па назначэнні ўрача і рэцэптах. Малочныя прадукты атрымліваюць дзеці да 2 год. Бясплатна – толькі малазабяспечаныя і мнагадзетныя сем'і. Па літры ў дзень атрымліваюць за шкоднасць некаторыя нашы супрацоўнікі.

**– Адкуль да вас трапляе малако для прыгатавання прадуктаў?**

– З гармалзавода. А для прыгатавання прадукцыі не з малака кампаненты бярэм з нашага склада.

**– Ці задавальняе вас матэрыяльнае становішча малочнай кухні?**

– Памяшканне вялікае, абсталяванне добрае.

Асноўны заказчык прадукцыі для малых – гарадская дзіцячая паліклініка. Загадвае ёю **Святлана Скапец**:

– Заўваг да работы малочнай кухні ў мяне няма. Працуюць, безумоўна, добра. Шкада, праўда, што колькі год таму на малочнай кухні выраблялі кісла–малочны прадукт (кефір), а цяпер не. Кажуць, што бутэлечак няма, але, на мой погляд, проста не хочуць гэтым займацца. Кефір для нашых дзяцей вельмі важны прадукт.

Загадчыца аддзела гігіены харчавання РЦГіЭ **Людміла Майко:**

– Справа ў тым, што бутэлечкі для кармлення грудных дзяцей мылі кальцыніраванай содай, а для гэтага лепш выкарыстоўваць пітную. На малочнай кухні было ўзята 187 проб па бактэрыялагічных паказчыках, 12 проб па санітарна–хімічных паказчыках, 178 змываў з посуду, інвентару, 10 проб вады. Адхіленняў знойдзена не было.

*Вольга ПАСЛЕД.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 6.01 | 13.01 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 285 | **340** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | – | - |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | – | – |
| Селядзец | 1 кг | 260 | **290** |
| Рыс | 1 кг | 140 | **150** |
| Цукар | 1 кг | 89 | **85-89** |
| Грэчка | 1 кг | 115 | **117** |
| Алей | 1 л | 240 | **280** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | **85** |
| Маянэз | 250 г | 60 | **65-80** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 320 | **340** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 100 | **100** |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 65 | **85** |
| Лімоны | 1кг | 310 | 350 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 180 | 120-180 |
| Масла | 1 кг | 360–400 | 300 |
| Тварог | 1 кг | 70 | **80** |
| Малако | 1,5 л | 35 | **40** |
| Бульба | 1 вядро | – | 130-150 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 120–150 | 130 |

*Агляд*

# Спорт вялікіх дасягненняў

*1988 год стаў адным з самых цікавых для айчыннага спорту. У першую чаргу, увагу прыцягвалі Алімпійскія Гульні. Для зборных па самых папулярных сярод балельшчыкаў гульнёвых відах спорту гэты сезон стаў сапраўды пераломным. Адзначу і беспрэцэдэнтную колькасць сусветных і еўрапейскіх чэмпіянатаў ды іншых турніраў, дзе брала ўдзел наша краіна.*

На зімовай Алімпіядзе, як і ў дэбютным 1994-м, беларусы заваявалі дзве ўзнагароды. Праўда, замест сярэбраных яны сталі бронзавымі. Увайшлі ў гісторыю біятланіст **Аляксей Айдараў** (20 км) і фрыстайліст-акрабат **Дзмітрый Дашчынскі**.

Шмат станоўчых эмоцыяў падарыла хакейная зборная, якая заваявала месца ў васьмёрцы на Алімпіядзе і на чэмпіянаце свету. Адбыліся сустрэчы з усімі грандамі. Так, пакуль мы прайгравалі канадцам і амерыканцам, шведам і фінам, чэхам і расіянам. Але ж, безумоўна, мінулай вясною былі мацнейшыя за ўсіх астатніх. Чарговае выпрабаванне будзе ў маі. Дарэчы, лепшым з хакеістаў у мінулым сезоне прызнаны варатар **Андрэй Мезін**.

Футбалісты ўпершыню выйгралі таварыскі матч, пасля другі, ды абодва з буйным лікам. У афіцыйных матчах маглі абыгрываць і датчанаў (0:0 дома), і валійцаў (2:3 на выездзе). Не хапіла ўпэўненасці ў сваіх сілах. Нічога, наперадзе яшчэ шэсць сустрэч, тры – дамашнія, адна з іх супраць саміх італьянцаў. У нашым складзе гульцы моцных клубаў – кіеўскага "Дынама", маскоўскіх "Спартака" і "Лакаматыва". У Кіеве, дарэчы, выступае футбаліст №1 гэтага сезона **Аляксандр Хацкевіч**.

Праз колькі год пабачылі ў Мінску лепшых айчынных баскетбалістаў і гандбалістаў. Многія з першых пасля перамогі на маладзёжным чэмпіянаце свету-94 паехалі на вучобу ў ЗША, а другія ніяк не маглі сабрацца са сваіх еўрапейскіх клубаў. Справы ў адборачных турнірах не паправіць, затое ёсць добрая будучыня. Адзначу вытрыманага "гулівера" **Ягора Мешчаракова** і майстра кідкоў з "апоры" **Сяргея Убожанку**.

Апошні пакуль нікуды не ад'язджаў, разам з партнёрамі па СКА выйшаў ў Лігу Чэмпіёнаў. У такі ж турнір упершыню ў сваёй гісторыі прабіўся жаночы валейбольны "Амкадор". Першы з сямі яго матчаў адбыўся на гэтым тыдні.

Было нямала ўдач у розных відах. Пасля траўмы зноў на вышыні гімнаст **Іван Іванкоў**; на выдатна асвоіў трайны скачок лёгкаатлет **Аляксандр Главацкі**; трох перамог дабілася мужчынская каманда тэнісістаў на Кубку Дэвіса; мацнейшай у свеце стала каманда па водных лыжах; першая "ракетка" свету па настольным тэнісе **Уладзімір Самсонаў** не збіраецца зніжаць свой рэйтынг; чэмпіёнкі свету ў мастацкай гімнастыцы - каманды як індывідуальных удзельніц (тут блістае **Яўгенія Паўліна**), так і групавых практыкаванняў. Самсонава і Паўліну прызналі лепшымі спартсменамі краіны 1998 года па выніках апытання спартыўных журналістаў.

Летась на Беларусі праходзілі чэмпіянаты Еўропы па біятлоне, грэка-рымскай барацьбе, боксе, Кубак свету па дзюдо, чэмпіянат свету па акрабатыцы і, ўрэшце, як бліскучы фінальны аккорд – паказальныя прадстаўленні зорак мастацкай і спартыўнай гімнастыкі. Мы бачылі на свае вочы спорт высокіх дасягненняў – беларусы адыгрываюць там далёка не апошнія ролі.

У наступным годзе на розных чэмпіянатах будуць разыгрывацца ліцэнзіі на ўдзел алімпійскім у Сіднеі-2000.

*Агні спартыўнага горада.*

ФОТА УЛАДЗІМІРА ІВАНОВА.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

ГАНДАЛЬ

# "Аксаміт" супраць "Dosia"

МІНСК. Вялікім попытам на Камароўскім рынку карыстаецца пральны парашок "Аксаміт новы ўніверсал", "Аксаміт ультра", "Аксаміт плюс" вытворчасці ВП "Белкас", што ў Маладзечне. 500–грамовы пакет каштуе 100–120 тысяч (у залежнасці ад месца продажу), што ўдвая танней за замежныя аналагі. Гаспадыні гавораць, што па якасці "Аксаміт" нічым не саступае лепшым пральным парашкам.

| **Пральны парашок** | | *Камароўка 12.01.* |
|---|---|---|
| Dosia | 450 | 160000 |
| E Standart | 600 | 190000 |
| E automat | 600 | 215000 |
| E maxima | 600 | |
| E 2 in 1 | 600 | 280000 |
| Tide Lemon | 450 | 320000 |
| Ariel automat | 450 | 400000 |
| Omo intelligent | 450 | 250000 |

*Ігар КІЦІКАЎ.*

СЕРВІС

# Дваццаць адзін від

СМАРГОНЬ. Столькі паслуг аказвае сёння райбыткамбінат.

З дапамогай райвыканкома ён набыў тры новыя вязальныя апараты ў трыкатажны цэх. Адкрыццё ў горадзе новай цырульні з сучасным абсталяваннем дазволіла стварыць 6 новых рабочых месцаў. Адрамантаваная мужчынская зала цырульні па вуліцы Савецкай, на рэканструкцыю і набыццё асноўных сродкаў выдаткавана 1,3 мільярда рублёў.

Дадаткова адкрытыя прыёмныя пункты на даму ў вёсках Ракаўцы, Сівіца, Монтацішкі. За кошт памяшканняў, якія раней здаваліся ў арэнду, створаныя нармальныя ўмовы работы для пункту пракату і хімчысткі.

*Павел МАКЛЮК.*

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

# Пенсіянеры і пенсіі

СМАРГОНЬ. Больш за 16 тысяч жыхароў раёна атрымліваюць пенсіі.

У іх ліку 12262 пенсіянеры ва ўзросце, 1190 чалавек дасягнулі 80–гадовага ўзросту, 5 пераступілі 100–гадовы парог, налічваецца 1008 адзінокіх састарэлых.

*Павел МАКЛЮК.*

СПРАВЫ ЗІМОВЫЯ

# Снягурка без грыму

***Толькі раз на год Маразы і Снягуркі сваё прафесійнае свята сустракаюць без грыму. У так званы стары Новы год.***

МАЛАДЗЕЧНА. Давялося трапіць у госці да Снягуркі, Шапакляк і Пацука. Героі мульцікаў і сёлетніх навагодніх ранішнікаў напавер аказаліся прыгожымі дзяўчатамі: **Алена Машкова, Ала Кананoвіч, Ларыса Кірэева**. У іх "брыгадзе" Дома культуры чыгуначнікаў ёсць яшчэ Дзед Мароз, Віні–Пух і Пятачок.

**Алена:**

– 15 гадоў іграю Снягурку. На поўным сур'ёзе мару пабываць у ролі Бабы Ягі. Раней мех Дзеда Мароза засыпалі падарункамі так, што на плечы дапамагала ўзнімаць. Цяпер арганізацыі, што запрашаюць, збяднелі. Спецыяльна для аб'ёму ў мех кладзем пустыя цэлафанавыя пакеты. Не вытрымліваю, калі вакол частуюцца слодычамі з падарункаў. Па шчырасці, па 2 цукеркі мы проста крадзем з меха.

Віншавалі неяк дарослых. Усе хочуць выпіць з Марозам. За стол яго запрасілі, нас таксама. Выпіць Дзед можа, а вось заесці – барада замінае. Дапамагла я яму. Бараду на гумцы адцягнула і ягонай рукавіцай зафіксавала. Праўда, не бачыла, каб Дзед салату еў, а вось бутэрброды кусаў.

**Ларыса:**

– Ранішнікі зацягнуліся. Пабегла я па піроржныя ў магазін. Паверх касцюма пацука футра накінула. У чарзе заўважыла, што малады чалавек на мае ногі глядзіць. Прыемна стала. Аднак глядзіць неяк доўга і збянтэжана. Я зірнула ўніз, а ў мяне адзаду з–пад футра хвост пацука тырчыць. Зняць забылася.

**Ала:**

Сёлета ўпершыню прыхільнік нашага таленту, прадпрымальнік Ігар, захацеў разам з намі выйсці да дзяцей. Далі яму ролю Віні–Пуха. Ігар доўга вучыў словы, хваляваўся. Таму з акампаніятарам дамовіўся: калі Віні–Пуху спяваць, той націскае Ігару на плячо.

А ў нашага Дзеда Мароза Аляксандра Сцепаненкі гэта па ліку другі Новы год. Летась ён так хваляваўся, што паходка стала сапраўды, як у дзеда. Першы выхад цяжка даецца. Быў у Аляксандра тэкст. А ён выйшаў да дзяцей, сказаў:

– Вось дзе я вас знайшоў!

І змоўк. Паўза. Дзед Мароз толькі вар'яцкімі вачыма водзіць.





*Снягурка Алена Машкова 31 снежня і 14 студзеня.*

ФОТА АЎТАРА.

Алена:

– Кожны ранішнік – нейкія незапланаваныя моманты. Пятачок падышоў да Віні–Пуха і гаворыць у мікрафон:

– Мы з Віні.

А ўсе пачулі:

– Мы свінні.

Дзецям гэта спадабалася – смяяліся.

Падыходзіць маленькі хлопчык да Кікімары (гэта было летась) і пытаецца:

– А можна, я буду ў цябе жыць?

Тая гаворыць:

– А мама табе дазволіць?

Праз хвіліну хлопчык прыбягае ўзрадавана:

– Пойдзем! Дазволіла!

Ала:

– Бацькі заўсёды ганарацца сваімі дзецьмі. У Турэц–Баярах мы выбралі дваіх з самымі лепшымі касцюмамі – П'еро і Клоуна. У П'еро і грым накладзены прафесійна. Выклікала да ёлкі матуль, якія ўсё гэта пашылі. Выйшла толькі адна. Аказалася, што абодва – яе сыны. У гэты момант іх бацька, які таксама быў у зале, на нашых вачах вырас сантыметраў на 20.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

